# Аб становішчы Рэспублікі Беларусь і аб важных пытаннях яе ўнутрыпалітычнай і знешнепалітычнай дзейнасці

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Вярхоўны Савет і ўрад рэспублікі прыкладаюць нямала намаганняў, каб панізіць тэндэнцыю росту злачыннасці. Фактычна гэтай праблеме прысвечана і бягучая нечарговая сесія парламента. Ідзе інтэнсіўная напрацоўка прававой базы. Але эфектыўная дзейнасць праваахоўных органаў значна залежыць ад выкарыстання імі сваіх унутраных рэзерваў, рацыянальнай іх пераарыентацыі на патрэбу сённяшніх праблем.

Адной з прычын росту правапарушэнняў з'яўляецца недасканаласць механізму кіравання эканомікай, асабліва на стыку дзейнасці дзяржаўных і камерцыйных структур. Менавіта тут адбываюцца як разбазарванне дзяржаўных сродкаў і грамадскіх каштоўнасцей, так і маральнае разлажэнне кіраўнікоў, у тым ліку — карупцыя. Праваахоўныя органы павінны не абмяжоўвацца выкрыццём правапарушэнняў, але і ўносіць прапановы па ліквідацыі іх прычын.

У галіне знешняй бяспекі рэспублікі Вярхоўным Саветам і ўрадам напрацаваны асноўныя законы і іншыя прававыя акты (аб абароне, аб Узброеных Сілах, аб дзяржаўнай граніцы і г.д.). Справа — за хутчэйшым прывядзеннем у дзеянне механізму па іх выкананню і рэфармаванню арміі, умацаванню мяжы, вырашэнню пытанняў па іх адпаведнаму забеспячэнню, у тым ліку — сацыяльных.

У ходзе падрыхтоўкі да сесіі ў Вярхоўны Савет паступіў шэраг прапаноў, накіраваных на паляпшэнне барацьбы са злачыннасцю, сярод якіх патрабуецца і павышэнне ролі Савета Бяспекі.

Зразумела, функцыі гэтай структуры значна шырэй, чым барацьба са злачыннасцю. Савет Бяспекі павінен каардынаваць дзейнасць дзяржаўных органаў у галінах абароны канстытуцыйнага ладу, суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці рэспублікі, экалагічнага стану, падтрымання палітычнай стабільнасці ў грамадстве. Роля Савета не ў тым, каб прымаць абавязковыя да выканання рашэнні, а ў тым, каб папярэдне, да вынясення на абмеркаванне парламента, разглядаць асноўныя напрамкі ваеннай палітыкі, вызначаць прыярытэты ў сферы аховы інтарэсаў грамадзян і дзяржавы, спрыяць мерапрыемствам па ўмацаванню сістэмы нацыянальнай бяспекі.

У рамках гэтай структуры адбываецца супрацоўніцтва дзвюх улад — заканадаўчай і выканаўчай, бо падзяленне ўлад не азначае іх ізаляванасці. Няма і не павінна быць непранікальных перагародак паміж Вярхоўным Саветам і Саветам Міністраў. Насупраць, падзяленне ўлад прадугледжвае сумесную работу над пытаннямі, якія закранаюць з розных бакоў паўнамоцтвы абодвух органаў.

Таму статус Савета Бяспекі падлягае перагляду, тым больш, што распрацаваны ён падчас існавання былога СССР. Трэба зрабіць з Савета Бяспекі працуючы, а не дэкларатыўны орган. Але ж рабіць гэта трэба ў поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй, калі цяпер — то з існуючай і дзеючай сёння.

Папярэдняе абмеркаванне ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета і ў Савеце Міністраў падрыхтаванага праекта палажэння аб Савеце Бяспекі ў новай рэдакцыі высвятліла шэраг супярэчнасцей, якія патрабуюць адпаведнай яго дапрацоўкі. Але з улікам агульнага разумення неабходнасці абавязковага павышэння эфектыўнасці гэтай структуры мы будзем працягваць работу, маючы на ўвазе вынесці праект на разгляд чарговай сесіі.

Нацыянальная бяспека рэспублікі ў значнай ступені вызначаецца тым, якую міжнародную палітыку праводзіць дзяржава. Падтрыманне бяспекі праз пастаяннае ўзмацненне сродкаў абароны - гэта шлях да эскалацыі супрацьстаяння, які можа прывесці ў тупік нават больш моцную краіну, чым Беларусь. Дэманстрацыя мускулаў як сродак усталявання на сусветнай арэне не адпавядае ні рэальным магчымасцям нашай рэспублікі, ні асновам беларускай дзяржаўнай палітыкі.

Я ўпэўнены, што прынцып імкнення да нейтралітэту замацаваны ў Дэкларацыі аб суверэнітэце, павінен вызначаць знешнюю палітыку Беларусі не толькі цяпер, але і на наступныя стагоддзі.

Не бывае проста нейтралітэту. Ён мае шэраг аспектаў і істотных характарыстык. Пастаянны нейтралітэт як прынцып дзяржаўнай палітыкі абавязвае краіну, якая яго прытрымліваецца, у мірны час праводзіць лінію, што перашкаджае ўцягненню яе ў вайну: не выстаўляць тэрытарыяльныя прэтэнзіі да суседзяў, не ўступаць у ваенныя саюзы, не дапускаць размяшчэння на сваёй тэрыторыі іншаземных ваенных баз, не заключаць дагаворы, што спрыяюць эканамічнай і палітычнай падрыхтоўцы вайны, не ўступаць у эканамічныя і палітычныя групоўкі, звязаныя з ваеннымі блокамі, не аснашчаць сваю армію зброяй масавага знішчэння.

Я з'яўляюся паслядоўным прыхільнікам пастаяннага нейтралітэту Беларусі. Не ведаю, ці трэба ўключаць гэтае палажэнне ў Канстытуцыю, і не ведаю, ці можа яно быць уключана пры нашым размеркаванні сіл, але замацаваць яго ў законе або ў міжнародных дагаворах лічу неабходным. І не трэба баяцца, што абавязацельствы Беларусі стаць нейтральнай дзяржавай несумяшчальныя з яе статусам члена ААН. Такой забароны ў Статуце ААН няма. Як вядома на дзесятай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у члены гэтай арганізацыі была прынята нейтральная Аўстрыя, што фактычна з'яўляецца прызнаннем з боку сусветнага супольніцтва сумяшчальнасці статуса пастаяннага нейтралітэту з членствам у ААН. Больш таго, як правіла, менавіта нейтральныя дзяржавы выступаюць актыўнымі ўдзельнікамі і ініцыятарамі міратворчых акцый ААН.

## VI. Знешнепалітычная дзейнасць

Беларусь - самабытная дзяржава. Сёння свет глядзіць на нас зацікаўлена: якая яна, гэта новая дзяржава?

Уступаючы ў цывілізаваныя і самастойныя адносіны са светам, мы не павінны іх ідэалізаваць. Неабходна ўсвядоміць, што тут не пазбегнуць сутыкнення інтарэсаў, праблем суіснавання ў новай якасці. Механізм уваходу ў сусветную супольнасць распрацоўвае Міністэрства замежных спраў, дзейнасць якога пры нядаўнім абмеркаванні знешнепалітычнай канцэпцыі не атрымала станоўчай ацэнкі, а сама канцэпцыя не была падтрымана Прэзідыумам. У чым сутнасць прэтэнзій да МЗС з боку Прэзідыума?

Пачну з прыкладу. На апошняй сесіі Генеральнай Асамблеі ААН штогадовы ўзнос Беларусі ў гэтую арганізацыю быў павялічаны на 2 мільёны долараў у год. Хоць нашы міжнароднікі ўносілі на разгляд Асамблеі зусім іншае пытанне — аб паніжэнні ўзносу. Як такое магло здарыцца? Адказ просты — у першую чаргу з-за нізкай прафесійнай (дыпламатычнай) кваліфікацыі.

Галоўны пралік: пытанні, якія датычацца дзяржаў-членаў ААН , як правіла, ніколі не выносяцца на разгляд Асамблеі імі ж самімі. Гэта за іх робяць сяброўскія краіны. Акрамя таго, пытанне не ставіцца на галасаванне, калі няма ўпэўненасці ў станоўчым выніку. А для гэтага праводзяцца папярэднія кансультацыі з усімі без выключэння прадстаўнікамі краін—членаў ААН.

Не ўлічана і спецыфіка дзейнасці арганізацыі, дзе існуе негалосная забарона на дыскусіі па двух момантах: Статуту ААН і суме ўзносаў кожнай асобнай дзяржавы. Чаму? ААН асцерагаецца "ланцуговай" рэакцыі: скарацюць узносы адной краіне — аб гэтым адразу ж пачнуць прасіць яшчэ больш бяднейшыя.

Гэты дыпламатычны правал нашага МЗС становіцца яшчэ больш крыўдным таму, што на гэтай жа Асамблеі Арменіі ўдалося атрымаць статус дзяржавы, пацярпеўшай экалагічнае бедства, і ўвогуле вызваліцца ад уплаты членскіх узносаў. Сумна, але падобныя няўдачы рэтушуюцца пампезнымі дэлегацыямі, якія выязджаюць за мяжу пад эгідай МЗС. Як, напрыклад, на адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў Падуі.

На думку членаў Прэзідыума, МЗС неапраўдана вялікую ўвагу надае кантактам з міжнароднымі нядзяржаўнымі арганізацыямі, забываючыся пра развіццё двухбаковых адносін з дзяржавамі, якія для эканамічных і палітычных інтарэсаў рэспублікі маюць прыярытэтнае значэнне. Асабліва гэта датычыць дзяржаў СНД, якія, будзем шчырымі, амаль што выпалі з поля зроку МЗС. Гэта пацвердзіў кіраўнік МЗС на апошнім пасяджэнні Прэзідыума. На жаль, замест абгрунтаванай і паслядоўнай прапрацоўкі важнейшых праблем палітыка-эканамічнага зместу знешняя палітыка рэспублікі пакуль што накіравана ў рэчышча культуралагічнай дзейнасці МЗС у далёкім замежжы.

Міністэрствам замежных спраў не вырашаецца самая важная першарадная задача для знешнепалітычнага ведамства — атрыманне па дыпламатычных каналах палітыка-эканамічнай інфармацыі, яе кваліфікаваны аналіз і прадстаўленне кіраўніцтву Вярхоўнага Савета, ураду рэспублікі для прыняцця рашэнняў і выкарыстання іх у бягучай рабоце.

У МЗС практычна не вядзецца на пастаяннай аснове аналітычная работа па апрацоўцы знешнеэканамічнай інфармацыі з пункту гледжання яе адпаведнасці інтарэсам рэспублікі. Кадравая палітыка ажыццяўляецца па старых штампах.

Недахопы ў працы знешнепалітычнага накірунку ў многім звязаны з тым, што МЗС не заўсёды бярэ на сябе каардынуючыя функцыі. Падпісваем пагадненні, дагаворы і на гэтым лічым сваю працу зробленай, чакаем, што ўсё само сабой зробіцца. Я ні разу не бачыў графікаў, планаў МЗС па рэалізацыі тых ці іншых пагадненняў. Далёка не поўна выконваецца патрабаванне Закона аб парадку заключэння, выканання і дэнансацыі міжнародных дагавораў, згодна з якім на Міністэрстве замежных спраў ляжыць абавязак па ўнясенню прапаноў аб адабрэнні і ратыфікацыі міжнародных дагавораў.

Трэба сказаць, што цэлы шэраг ініцыятыў знешнепалітычнага характару даводзіцца браць на сябе службам Вярхоўнага Савета. У прыватнасці, ратыфікацыя Дагавора аб СНУ-1 адбылася толькі дзякуючы паслядоўнай, дакладнай і прынцыповай пазіцыі Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Гэтыя крокі прадэманстравалі ўсяму свету, з якой сур'ёзнасцю Беларусь адносіцца да сваіх абавязацельстваў. Як вынік, ужо сёння ЗША пацвердзілі гатоўнасць расшырыць памеры супрацоўніцтва і садзейнічання Рэспубліцы Беларусь, што знойдзе адлюстраванне ў гуманітарным, эканамічным і тэхнічным садзейнічанні, супрацоўніцтве "ваенныя — ваенным", у гуманітарнай дапамозе медыкаментамі і г.д. Урад ЗША выдзеліў 65 млн. долараў для садзейнічання ў галіне эканомікі, тэхнікі, бяспекі, аналізуюцца шляхі дапамогі ў вырашэнні жыллёвых праблем вайскоўцаў, перамяшчаемых у Расію.

Аналіз тэндэнцый і фактаў сведчыць аб тым, што цяперашняе кіраўніцтва МЗС не толькі не ў стане забяспечыць эфектыўнае функцыяніраванне знешнепалітычнага ведамства рэспублікі, але і становіцца фактарам рызыкі для яе нацыянальных інтарэсаў. Маюць рацыю прапановы па карэннай рэарганізацыі нашых знешнепалітычных і знешнеэканамічных ведамстваў — і МЗС, і Дзяржзнешэканамсувязі. Відаць, наспела пытанне аб іх аб'яднанні, што зроблена ў многіх краінах, у прыватнасці, у Літве, Латвіі, Эстоніі. Тады здымаецца і праблема каардынацыі іх дзейнасці, якая пакуль што не вырашана Саўмінам з-за таго, што гэтыя сферы курыруюць, па меншай меры, пяць намеснікаў Старшыні Савета Міністраў. На жаль, не ўносіў своечасовых прапаноў па паляпшэнню дзейнасці ў гэтым накірунку і Прэзідыум Вярхоўнага Савета.

Асобна хачу закрануць праблему нашых сувязей з суайчыннікамі за мяжой. Сёння амаль два с паловай мільёна беларусаў раскідана па свеце, каля 70 тысяч з іх у Злучаных Штатах, 10 тысяч у Аўстраліі, тысячы нашых суайчыннікаў у Літве, Польшчы, Расіі, Казахстане, Украіне, Канадзе, Аргенціне. Там існуюць беларускія суполкі, выходзіць на нашай мове перыёдыка.

У нас заўсёды была зацікаўленасць адзін да аднаго. Увагу брацкім сувязям удзяляюць згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", таварыства "Радзіма", Таварыства сувязі з замежнымі краінамі, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Скарыны, Таварыства беларускай мовы, Фонд культуры і іншыя.

Мэтазгодна і далей праводзіць палітыку падтрымкі за мяжой беларусаў праз адпаведныя дзяржаўныя органы гэтых краін, больш увагі ўдзяляць стану беларусаў за мяжой.

У снежні мінулага года ў Мінску адбыўся першы сход беларусаў блізкага замежжа. У адной зале сабраліся дзеці аднаго кораня і аднадушна зрабілі крок насустрач. Упершыню Бацькаўшчына выказала патрэбу ў паслугах сваіх сыноў і дачок па-за межамі, упершыню ішла гаворка аб дзяржаўнай праграме наладжвання кантактаў з беларускай дыяспарай.

Наладжваюцца ў нас і іншыя сувязі з беларускім замежжам. Важнай падзеяй павінен стаць Усебеларускі форум, Сусветны кангрэс беларусаў, што мае адбыцца ў нашай рэспубліцы ў ліпені.

Імкненне насустрач не можа не радаваць. У гэтай сувязі нельга абысці і пытанне грамадзянства. Многія з беларусаў блізкага замежжа выказваюцца за права мець двайное грамадзянства. Наш Закон аб грамадзянстве прадугледжвае магчымасць існавання двайнога грамадзянства на падставе міжнародных дагавораў. Але ёсць краіны, якія ў сваю чаргу ў сваім заканадаўстве прадугледзелі права набыцця двайнога грамадзянства (напрыклад, Канада). Выбраць правільнае рашэнне — справа Вярхоўнага Савета. Мэтазгодна, каб адпаведныя прапановы ўнесла Камісія па нацыянальнай палітыцы і пытаннях СНД.

## VII. Шлях выхаду з крызісу — нацыянальная і грамадзянская згода

Інтэлектуальны патэнцыял і грамадзянскія якасці кожнага з нас неабходна выкарыстаць перш за ўсё на карысць дзяржаве, мара аб якой генетычна стагоддзямі захоўвалася ў свядомасці нацыі і нарэшце ажыццявілася. Таму перакананы, што больш, чым праграмы і абяцанні народу Беларусі неабходны заканадаўчыя гарантыі і дух еднасці, пачуццё, што мы ўсе разам робім адну агульную справу.

Пры адкрыцці сесіі я адзначыў, што сёння ў нашым грамадстве можна выдзеліць як мінімум дзве асноўныя ідэйна-палітычныя арыентацыі. За імі стаяць розныя падыходы да ацэнкі рэчаіснасці і да шляхоў выхаду з крызіснага стану. Кожны з бакоў катэгарычна адвяргае ўсё тое, што ўхваляе іншы бок. І вядома, прыхільнікі той альбо іншай ідэі імкнуцца навязаць уладзе ўласны пункт гледжання на будучыню Беларусі.

Становішча ўскладняецца хілай партыйна-палітычнай сістэмай. Нованароджаныя партыі пакуль што не ў стане быць інструментам прамой і зваротнай сувязі паміж уладай і грамадствам. Ім яшчэ не пад сілу роля пасрэдніка, які перапрацоўвае хаатычныя, неаформленыя інтарэсы ў якасныя палітычныя мэты, у набор магчымых дзяржаўных рашэнняў. Розныя грамадскія інтарэсы, мінаючы прамежкавыя інстанцыі, рэалізуюцца напрамую ў вышэйшых эшалонах улады. Партыі і рухі шукаюць у ключавых пастах на палітычнай сцэне "групы падтрымкі". У выніку парламентарыі ўсё часцей замест таго, каб выпрацоўваць стратэгію і тактыку дэмакратычных перамен, распачынаюць у гэтай зале спрэчкі са сваімі палітычнымі апанентамі.

Сімптаматычны фактар у станаўленні на Беларусі новай палітычнай сістэмы — падазронасць і агрэсіўнасць. Замест сумленнай палітычнай барацьбы перакананняў — выкрыкі, выкрыванні, правакацыі... Не спрыяе гэта аўтарытэту той альбо іншай партыі, той альбо іншай асобы. Сапраўдныя палітыкі зыходзяць з арганічнай неабходнасці існавання шматпартыйнасці, розных яе полюсаў.

Незадавальненне і канфрантацыя пранікаюць унутр самых розных слаёў, пачынаюць размываць і разбураць іх, фарміраваць сацыяльна-эканамічную і палітычную нестабільнасць. Гэта, на жаль, вядзе да стэрэатыпу пошуку "ўнутраных" і "знешніх" ворагаў,якія ўстаяўся ў нашай свядомасці.

Па даных даследавання ў бягучым месяцы 61 працэнт жыхароў рэспублікі лічыць, што ў большасці людзей, якія іх акружаюць, ёсць агульныя ворагі (у Мінску так адказалі 72 працэнты апытаных). Хто ж гэтыя ворагі?

44 працэнты мяркуюць, што такімі агульнымі для ўсіх ворагамі з'яўляюцца злачынцы, мафія. Для амаль кожнага шостага жыхара Беларусі ў якасці ворага выступаюць бюракраты, прадстаўнікі старой эканомікі, для кожнага сёмага — партакраты, прадстаўнікі старой улады. 13 працэнтаў апытаных мяркуюць, што іх галоўны вораг — нацыяналісты і шавіністы, 10 працэнтаў — што гэта прадпрымальнікі, прадстаўнікі новай эканомікі, 8 працэнтаў — што гэта дэмакраты, прадстаўнікі новай улады.

У такой сітуацыі неабходна прад'яўляць асабліва жорсткія патрабаванні да праводзімай унутрыпалітычнай лініі. Толькі прытрымліваючыся лозунга хунвэйбінаў — "чым горш, тым лепш", можна гаварыць аб тым, што каб пераадолець глыбокі сацыяльна-эканамічны і палітычны крызіс у грамадстве, трэба спачатку размежавацца, такім чынам дазволіць разрасціся сацыяльнаму супрацьстаянню.

Я гавару неаднаразова і гатовы гэта паўтарыць, калі спатрэбіцца, яшчэ тысячы разоў — такі шлях вядзе не да аздараўлення, а да грамадскай дэзарыентацыі, канцом якой будзе агульнанацыянальная бяда.

Мы абавязаны глыбока ўсвядоміць, што далейшае ўзмацненне эканамічнага і сацыяльна-палітычнага супрацьстаяння практычна ставіць крыж на магчымасці пабудовы прававога грамадства і сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі. Таму дасягненне грамадскай згоды адначасова і неабходнасць і прадпасылка нашага выхаду з крызісу і стварэння дэмакратычнага дзяржаўнага ладу. Калі наша ўнутраная палітыка будзе накіравана не да згоды, а да супрацьстаяння розных палітычных сіл і сацыяльна-эканамічных груп, можа стварыцца сітуацыя, калі ажыццяўленне рэформ і выхад з развалу на дэмакратычнай і рыначнай аснове стануць немагчымымі. І тады, каб пазбегнуць масавага сацыяльнага выбуху і ўстанаўлення адкрытай дыктатуры, давядзецца тэрмінова вяртацца на пазіцыю адміністрацыйна-каманднага, дзяржаўнага рэгулявання і кантролю як эканомікі, так і жыццядзейнасці грамадства ў цэлым.

Па майму глыбокаму перакананню, сучасная палітычная сітуацыя патрабуе ад усіх пазбягаць катэгарычнасці, сляпой упартасці, бо за імі — канфлікт, выбух. Мысленне сучаснага палітыка, які адчувае ўсю адказнасць за народ, да якога ён звяртаецца са сваімі заклікамі, можа абапірацца толькі на думку, што няма абсалютнай ідэі, ёсць кампрамісны ўлік інтарэсаў усіх бакоў. Таму я быў і застаюся прыхільнікам палітычнай згоды. На маю думку, нашай самай важнай справай як ніколі з'яўляецца задача аб'яднання нашага народа, каб яго своеасаблівасць стала крыніцай сілы ў свеце, дзе кожная краіна адыгрывае сваю ролю.

Прыйшоў час ствараць шырокі дэмакратычны рух, які будзе здольны аб'яднаць як людзей розных поглядаў, так і розныя палітычныя грамадскія сілы на падставе прынцыпу: "Згода дзеля прагрэсу, згода дзеля Бацькаўшчыны". Моц і мудрасць нашага народа — ва ўменні дамаўляцца, шукаць згоды, аб'ядноўвацца дзеля дасягнення грамадзянскага міру і прававых рэформ. Нашай рэспубліцы зараз як ніколі патрэбен дыялог палітычных сіл, каб сумесна думаць аб тым, што хвалюе ўсіх, — аб дабрабыце Беларусі.

Думаю, пры такім падыходзе мы зможам пераадолець сённяшні эканамічны крызіс і вясной будучага года правесці чарговыя выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь на шырокай дэмакратычнай аснове. Можна спрачацца пра тое, які будзе палітычны твар новага парламента, але вядома адно, што адбудзецца вялікая ратацыя дэпутацкага корпусу. Народнымі выбраннікамі стануць прадстаўнікі самых розных партый і рухаў, а шматпартыйная сістэма — моцным партнёрам дзяржаўнай улады.

Паважаныя народныя дэпутаты!

Я не выступаў са сваёй справаздачай, а ў адпаведнасці з пунктам 2 артыкула 108 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь вызначыў найбольш важныя пытанні ўнутрыпалітычнай і знешнепалітычнай дзейнасці рэспублікі. Таму давайце разам думаць над тым, як працаваць лепей на карысць народа Беларусі.

*На чыстую ваду*

# Ратавалі начальства, а не інтарэсы дзяржавы

**9 лютага г.г. "Народная газета" надрукавала артыкул свайго ўласнага карэспандэнта па Гомельскай вобласці А.Гатоўчыца "Як спадары Кароткі, Пракапенка і Вайцянкоў за валюту куплялі какава-бабы ў Галандыі". У матэрыяле ішла гаворка пра тое, чым завяршыўся намер Гомельскага аблвыканкама і асацыяцыі "Знешгомель" зарабіць валютныя сродкі, частку якіх меркавалася выкарыстаць для фінансавання будаўніцтва спецыялізаванага дыспансера для чарнобыльцаў. У сувязі са зваротам у рэдакцыю фінансавага ўпраўлення Гомельскага аблвыканкама, а таксама "абвяргальнай" публікацыяй у газеце "Гомельская праўда" мы вымушаны былі 11 сакавіка зноў вярнуцца да ўзнятай тэмы.**

**Сёння друкуецца рашэнне па гэтаму пытанню савета Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь.**

Савет Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь разгледзеў пытанне аб парушэннях Гомельскім аблвыканкамам (Вайцянкоў М.Р.) і асацыяцыяй "Знешгомель" (Кароткі Ю.А., Тынянка С.В.) пры рэалізацыі нафты і расходаванні выручаных валютных сродкаў.

Адзначана, што насуперак патрабаванням заканадаўства асацыяцыя не была зарэгістравана як юрыдычная асоба ў выканкаме раённага Савета народных дэпутатаў па месцы знаходжання. Гомельскі аблвыканкам, не маючы на тое законных падстаў, зацвердзіў яе стварэнне, чым перавысіў свае паўнамоцтвы. Нягледзячы на гэтыя парушэнні, Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па знешніх эканамічных сувязях 1 лютага 1990 года зарэгістраваў асацыяцыю як удзельніка знешнеэканамічных сувязей і выдаў пасведчанне на ажыццяўленне экспартна-імпартных аперацый.

У чэрвені 1991 года аблвыканкам (Пракапенка С.І.) заключыў з асацыяцыяй дагавор камісіі на экспарт 300 тыс. тон нафты, а ў кастрычніку таго ж года дазволіў яе рэалізацыю з мэтай атрымання валютных сродкаў для будаўніцтва медыцынскага цэнтра ў Гомелі.

На падставе дзвюх ліцэнзій асацыяцыя рэалізавала 250 тыс. тон нафты на суму 33,7 млн. долараў ЗША і 50 тыс. тон — на суму 6,13 млн. долараў. З атрыманай выручкі 21,4 млн. долараў заблакіравана ў Знешэканамбанку былога СССР, значная частка выкарыстана на куплю збожжа, медыкаментаў, аўтамабіляў, запасных частак да тралейбусаў і іншых тавараў.

У парушэнне пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб часовым парадку валютнага рэгулявання і правядзення валютных аперацый на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь" 6,13 млн. долараў было пералічана на рахунак, адкрыты генеральным дырэктарам асацыяцыі "Знешгомель" Кароткім Ю.А. у "Дойч Банку" г.Віліха. Праз тры месяцы з гэтай сумы 5,6 млн. долараў было вернута асацыяцыі, 307 тыс. долараў пералічаны фірме "Зотэкс" за быццам бы набытую асацыяцыяй тэхналагічную лінію па перапрацоўцы мяса. Да цяперашняга часу лінія не атрымана. Па кантракту яе кошт вызначаны ў суме 435,6 тыс. нямецкіх марак, што па курсу суадносін долара да маркі ў кастрычніку 1992 года складала 270 тыс. долараў. У выніку фірме залішне залічана 37 тыс. долараў ЗША.

Акрамя таго, рэалізацыя 50 тыс. тон нафты фірме "Зотэкс" была праведзена асацыяцыяй без афармлення мытнай грузавой дэкларацыі і аплаты падатку на экспарт. У сувязі з гэтым запазычанасць асацыяцыі бюджэту, з улікам нядоімкі і пені, складае 919,5 тыс. долараў. Да цяперашняга часу органы Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь не прынялі мер па спагнанню з асацыяцыі ўказанай сумы.

5 снежня 1991 года па даручэнню аблвыканкама асацыяцыя пералічыла 220 тыс. долараў ЗША ў Галандыю за какава-бабы для гомельскай кандытарскай фабрыкі "Спартак", якая заключыла кантракт на іх пастаўку са знешнеэканамічным аб'яднаннем "Саюзплодімпарт" (г.Масква). Па звестках Знешэканамбанка, плацежнае даручэнне асацыяцыі было выканана 25 снежня 1991 года. Аднак прадукцыя фабрыкай да гэтай пары не атрымана, месцазнаходжанне валюты не ўстаноўлена. Насуперак свайму рашэнню аблвыканкам не запатрабаваў з фабрыкі рублёвага пакрыцця выдзеленых ёй валютных сродкаў.

У выніку адзначаных проціпраўных дзеянняў дзяржаве нанесены ўрон на суму 1176,5 тыс. долараў, што па курсу долара да рубля па стану на 10 сакавіка 1993 года складае звыш 814 млн. рублёў.

Савет Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь адзначыў, што выканкам Гомельскага абласнога Савета народных дэпутатаў, перавысіўшы свае паўнамоцтвы, даручыў асацыяцыі "Знешгомель" выкананне функцый, якія не прадугледжаны яе ўстаўнымі дакументамі. Пры гэтым не ажыццяўляў кантроль за мэтавым і эфектыўным расходаваннем атрыманай за нафту валютнай выручкі, улікам і своечасовым вяртаннем з-за мяжы нявыкарыстанай яе часткі.

Патрабавана ад аблвыканкама прыняць неабходныя меры па аднаўленню ў валютны фонд вобласці сродкаў, выкарыстаных не па мэтаваму прызначэнню, прыцягненню да адказнасці службовых асоб, вінаватых у парушэннях валютных аперацый.

У частковае кампенсаванне прычыненага дзяржаве ўрону ў выніку парушэння ўстаноўленага ў рэспубліцы парадку правядзення валютных аперацый уключыць грашовыя налічэнні на генеральнага дырэктара і галоўнага бухгалтара асацыяцыі "Знешгомель" Кароткага Ю.А. і Тынянка С.В. у размеры трох месячных службовых акладаў.

Прынята да ведама, што матэрыялы праверкі асацыяцыі "Знешгомель" перададзены ў пракуратуру Гомельскай вобласці.

Савет Кантрольнай палаты запатрабаваў ад Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь (Шкурдзь Г.М.) прыцягнуць да адказнасці службовых асоб, якія дапусцілі грубае парушэнне існуючых правілаў збору падатку на экспарт, спагнаць у поўным аб'ёме з асацыяцыі "Знешгомель" належачыя бюджэту плацяжы.

Даручана Дзяржаўнаму камітэту Рэспублікі Беларусь па знешніх эканамічных сувязях разгледзець пытанне аб законнасці і мэтазгоднасці перарэгістрацыі асацыяцыі "Знешгомель" як удзельніка знешнеэканамічнай дзейнасці.

**Інфармацыйна-аналітычны аддзел Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь.**

## Ад рэдакцыі "Народнай газеты"

**Змяшчаючы гэты матэрыял, мы спадзяёмся, што яго надрукуе і абласная газета "Гомельская праўда". Актыўна, вельмі актыўна абараняў яе рэдактар В.Логвін тых, з-за каго "ў выніку адзначаных проціпраўных дзеянняў дзяржаве нанесены ўрон на суму 1176,5 тыс. долараў, што па курсу долара да рубля па стану на 10 сакавіка 1993 года складае звыш 814 млн. рублёў". Напомнім, пасля крытычнага выступлення "Народнай газеты" В.Логвін аператыўна апублікаваў свой адвакацкі артыкул, а затым — адкрытае пісьмо ў адрас "Народнай газеты".**

**Дык скажыце, спадар Логвін, якую "ісціну" вы абараняеце? Можа, пазнаёміўшыся з вынікамі праверкі Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь, вы ўсё ж папросіце прабачэння ў чытачоў сваёй газеты, якіх завялі ў зман, выгароджваючы абласное начальства?**

**Не інакш як "каралеўствам", у якім не ўсё так дрэнна, выстаўляе сябе перад чытачамі ў адкрытым лісце "Гомельская праўда". "Каралеўства", "герцагства" альбо проста "цьмутаракань" — нам да гэтага няма справы, больш важным з'яўляецца другое. Чаму "Гомельская праўда" і яе галоўны рэдактар В.Логвін (трэба меркаваць, "кароль") не хочуць заўважаць верагоднага: у Гомелі з-за амбіцый, прабачце, можа, нават самадурства некаторых былых і сённяшніх начальнікаў так і не пачата будаўніцтва спецдыспансера? Чаму нямала валюты, з цяжкасцю заробленай ад продажу нафты і прызначанай для будаўніцтва гэтага ж самага спецдыспансера, пайшло зусім на іншыя мэты?**

**Адказаць на гэтыя і іншыя пытанні пасля артыкула "Як спадары Кароткі, Пракапенка і Вайцянкоў за валюту куплялі какава-бабы ў Галандыі" ("НГ", 9 лютага) мы паспрабавалі ў тлумачальнай запісцы ўласнага карэспандэнта А.Гатоўчыца "За 23 мільёны "кракае" і рэдактар" ("НГ", 11 сакавіка). Запіска гэта была адказам на некаторыя пярэчанні аблфінупраўлення і "развважанні" з гэтай прычыны ў "Гомельскай праўдзе" галоўнага рэдактара. У ёй ёсць такі абзац: "Даволі, рэдактар Логвін! Атрасіце калені, разагніце спіну. Ці ўжо не атрымліваецца? Разумею: за 23 мільёны 700 тысяч рублёў ужо гатовы не толькі газетную качку выпусціць, але і сам закракаць. Бо менавіта столькі грошай аблвыканкам адшпіліў "Гомельскай праўдзе" і выдавецтву "Сож" з тых самых валютных сродкаў, што выручаны былі ад продажу нафты на спецдыспансер і абменены на рублі".**

**У адкрытым пісьме, нягледзячы на названы вышэй абзац, які ўдакладняе загаловак, аўтары і пярэчаць: маўляў, іх рэдактар "кракаў" не за 23 мільёны. Больш таго, яны бессаромна сцвярджаюць: "Ні адзін долар, атрыманы ад продажу нафты, у рублі для фінансавання "Гомельскай праўды" не пераводзіўся і не выдзяляўся".**

**Калі на самай справе не ўсё так дрэнна ў "каралеўстве", звернемся да дакументаў, каб вычленіць менавіта долю гэтага, з дазволу сказаць, "каралеўства".**

**Інфармацыю "Рух валютных сродкаў на рахунках аблвыканкама" за подпісам начальніка фінансавага ўпраўлення Гомельскага аблвыканкама А.Круглея наш уласны карэспандэнт атрымаў з рук самога Андрэя Андрэевіча. На другой старонцы гэтай інфармацыі значыцца: "За прададзеную валюту на пазабюджэтны рахунак аблвыканкама паступіла 853.956 тыс. рублёў. Зрасходавана па рашэнню аблвыканкама: ...Упраўленне інфармацыі, выдавецтва, "Гомельская праўда" — 23.170 тыс. рублёў". Канкрэтызуем. Распараджэннямі аблвыканкама N 140-р ад 6.03.92 г. абласной газеце выдзелены 1 млн. рублёў, N 282-р ад 19.05.92 г. — 70 тыс. рублёў. Наступнае распараджэнне N 354-р ад 26.06.92 г., даслоўна: "Выдзеліць з пазабюджэтнага рахунку аблвыканкама (сродкі ад рэалізацыі валюты) рэдакцыі абласной газеты "Гомельская праўда" 1,0 млн. рублёў на фінансаванне неадкладных затрат..." Ідзём далей. Рашэнне аблвыканкама N 300 ад 15.10.92 г. "Аб фінансавай падтрымцы структур кіравання інфармацыі аблвыканкама". З 19,6 млн. рублёў, выдзеленых упраўленню за кошт пазабюджэтнага фонду аблвыканкама, абласной газеце адшпільваецца 11 млн. 100 тыс. рублёў. Усяго: доля "каралеўства", г.зн. "Гомельскай праўды", склала 13 млн. 170 тыс. рублёў. Такім чынам, панове абвяргацелі, самі ў лужу не садзіцеся: без мільёнаў, выручаных ад продажу валюты, ваша "каралеўства" беднае, а кароль у ім — голы.**

**Карыстаючыся выпадкам, удакладнім: з тых самых валютных сродкаў 23 мільёны рублёў перапала "Гомельскай праўдзе" і выдавецтву "Сож" разам узятым. Калі браць асобна, то аблгазеце — крыху больш трынаццаці мільёнаў. Але і за трынаццаць мільёнаў вам, спадар В.Логвін, не трэба паслужліва адводзіць ад адказнасці тых, хто нанёс дзяржаве страты на 814 мільёнаў рублёў.**

# Заключительное слово Председателя Совета Министров Республики Беларусь В.Ф.КЕБИЧА на 11-й внеочередной сессии Верховного Совета

Уважаемые народные депутаты!

Безусловно, нельзя было ожидать, что не будет полярных взглядов, различного рода противоречивых оценок, взаимоисключающих мнений, различных по своей тональности и накалу высказываний при обсуждении таких сложнейших вопросов, как экономическая ситуация в республике, создание экономического союза и о том, какими должны быть первоочередные меры, чтобы приостановить спад в экономике. Это вполне нормально.

Поразило другое. Ведь подавляющее большинство депутатов, и я в этом совершенно уверен, представляют себе, насколько сложно сейчас положение в экономике республики. Насколько оно зависит от взаимоотношений с другими регионами бывшего Союза, особенно с Россией. Насколько нам важно не допустить того, чтобы эти отношения еще больше усложнились и пришли к своему самому худшему состоянию.

Никогда не смогу поверить, что кто-то этого из депутатов не понимает. Нет, понимают. Поэтому создается огромное внутреннее беспокойство, когда часть депутатов осознанно толкает всех нас к тому, чтобы за ширмой "большой" в кавычках политики, якобы заботы о благе народа, поставить экономику на колени, вызвать массовую безработицу, еще больше ухудшить жизнь людей, породить напряженность в обществе, довести ее до крайней черты.

К сожалению, не все смогли преодолеть свои политические претензии и подняться до уровня обеспокоенности реальной действительностью, проникнуться чувством своей личной ответственности за судьбу нашего государства.

В очередной раз некоторые политики пытались использовать эту трибуну, чтобы вызвать накал страстей, увести парламент в сторону от главных вопросов. Мне кажется, на сей раз это у них не получилось.

Я удовлетворен тем, что большинство депутатов близко к сердцу принимает нашу общую боль, тревогу за судьбу республики. И у меня сложилось впечатление, что общий перевес сегодня на стороне здравого смысла, поддержки идеи экономического союза, того, что он нам нужен, и необходимо незамедлительно приступать к его созданию.

Хочу сообщить вам, что вчера у нас в правительстве состоялись продолжительные и очень трудные переговоры с заместителем Председателя Совета Министров Российской Федерации Шохиным А.Н. и председателем Государственного комитета по экономическому сотрудничеству с государствами—участниками СНГ — Мащицем В.М. Обсуждались в числе других вопросы, связанные с заключением экономического союза. Наше видение этого союза в принципе получило поддержку. Решено переговоры продолжить.

В связи с началом переговорного процесса в принципе достигнута договоренность отложить введение таможенных пошлин на поставляемые Россией нефть и другие ресурсы и обеспечить выполнение выделенных нам нефтяных квот.

Депутатами высказано много заинтересованных соображений, обогащающих наше представление об экономическом союзе. И я воспринимаю это с большим удовлетворением.

Почти в каждом выступлении затрагивались текущие дела. Эти замечания и предложения касались, в частности, необходимости оказания еще большего внимания нашему сельскому хозяйству через систему цен и дотаций. Правительство практически ежедневно этим занимается, но мы в связи с высказанной критикой обязательно вернемся к этим вопросам.

Многие депутаты говорили о том, что целый ряд промышленных предприятий находится в тяжелейшем финансовом положении. Это действительно так, это вызывает огромную озабоченность правительства. Мы прорабатывали разные варианты, как помочь им, и предлагаем воздержаться от размещения заложенного в бюджете обязательного займа по Чернобылю. Речь идет о 60 млрд. рублей. С тем, чтобы не нарушать финансирование предусмотренных за счет этого займа расходов, придется, видимо, отнести указанную сумму на внутренний государственный долг, о чем надо решить на следующей сессии Верховного Совета. Этим самым на 10 процентов увеличивается размер прибыли, остающейся в распоряжении предприятий, и они смогут поправить свои дела.

Многие замечания и предложения коснулись, как всегда, социальных проблем. Они действительно все очень острые, их нужно решать, и мы это по возможности будем делать. Но опять-таки все упирается в экономику. Поправим дело в экономике — и эти вопросы решим.

Поднимался и целый ряд других вопросов. В частности, по проблемам молодежи, жилищного строительства, поддержки инвалидов и так далее. Все они будут рассмотрены правительством. Однако в связи с этим хотелось отметить такой момент. Значительная часть из них, мне кажется, прозвучала здесь потому, что, к сожалению, депутаты недостаточно информированы о том, что уже сделано и что предпринимается по тем или иным направлениям. Это нам надо отнести, видимо, как упрек правительству и его ведомствам. Поправить положение не так уж сложно. Я думаю, мы договоримся с комиссиями Верховного Совета, как улучшить информированность депутатов.

Теперь — о том вопросе, вокруг которого здесь часто разгорались страсти, о Договоре по коллективной безопасности. Конечно, это непростой вопрос, но попытки приписать мне какие-то игры вокруг этой проблемы — просто негодный прием. Некоторые свои соображения по этому вопросу я высказал в своем докладе на совещании председателей исполкомов Советов. Не надо вокруг этого вопроса нагнетать страсти. Это дело не правительства, это дело только Верховного Совета, и вам его решать.

Уважаемые народные депутаты!

Нам нужно по всем направлениям строить нормальные отношения со всеми государствами, прежде всего со своими соседями. А если уж говорить о России, о том, как здесь сказал депутат Довгалев, что нам в России чуть ли не "лобби" свое надо иметь, то представьте себе на минутку, как же это можно сделать, если чуть ли не любой выступающий от оппозиции считает своей обязанностью прямо или косвенно поизгаляться в критике по отношению к России. И тем оказывает очень "хорошую" помощь и правительству, и Верховному Совету.

Конечно, России сейчас нелегко. Мы внимательно следим за тем, что там происходит. Все это нам далеко небезразлично. Это та страна, эхо от событий в которой раскатывается по всему миру, не говоря уже о ее соседях. И давайте будем с этим считаться.

Нельзя даже в высказываниях по отношению к России поступать безответственно и неуважительно. Это в конце концов просто неприлично. Так же неприлично, как если бы Россия высказывалась о нашей республике в том же духе.

А у нас в парламенте, к сожалению, среди оппозиции немало таких, кто, прикрываясь заботой о благе народа, о судьбе государства, то и дело пытается с помощью фонтана красноречия поучать всех и вся, как вести дело в любой сфере. Будь то политика, культура, сельское хозяйство, промышленность, финансы — все им по плечу. Оказывается, можно большую часть прожитой жизни заниматься чем хотите, а потом выдавать рецепты как вести структурную перестройку экономики, как лучше проводить земельную реформу, создавать финансово-кредитную и банковскую системы. Хорошо, если бы дельные рецепты давались. А то ведь в них столько пустоты, что подчас и не знаешь, как на это прореагировать.

Для оппозиции, видимо, самое главное — прошуметь, заявить о себе, в очередной раз отшвырнуть предложения правительства.

Откровенно говоря, меня иногда подмывает внести предложения, которые полностью соответствуют позиции оппозиции. И я уверен, что все равно правительство будет подвергнуто жесточайшей критике даже за такие предложения. Кстати, я уже это пробовал. И когда я не трогал оппозицию, более того, даже поддерживал ее в некоторых вопросах, она все равно требовала моей отставки.

Уважаемые народные депутаты!

Я еще раз обращаюсь к вам с призывом поддержать предложения о создании экономического союза. Они отражены в проекте постановления, который вы имеете. Надо это обязательно сделать, чтобы немедленно приступить к переговорам с заинтересованными странами. Лишь в этом случае мы можем рассчитывать на то, что те трудности, которые сейчас переживает наше государство, будут преодолены с меньшими для него потерями. И я вас заверяю, что правительство предпримет все меры к тому, чтобы справиться с возложенными на него задачами.

Благодарю за внимание.

